ВЯНОК

БЮЛЛЕТЭНЬ ГРОДЗЕНСКАГА АБЛАСНОГА АДЗЬДЗЯЛЕНЬНЯ БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ.

# ДА 100-ГОДЗЬДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

**ЗЬМІТРОК БЯДУЛЯ**

## НА СКРЫЖАЛЯХ АДРАДЖЭНЬНЯ

**...пайшоў да Бога...**
**Шмат ты ад яго спадзявалася, бедная Беларусь.**
**Праўда, шмат ён і зрабіў, але мог яшчэ болей зрабіць...**
**За ўсе гады працы на роднай ніве...**
**быццам тысячы крэпка нацягнутых струн, зьвінела яго паэзія...**
**Некалькімі характэрнымі штрыхамі**
**Багдановіч даваў цэля, жывы малюнак,**
**нібы старасьвецкія масежныя барэльефы**
**з цудным арнаментам...**
**Яго верш папраўдзе зьвініць, як звон,**
**і іскры брызгаюць з халодных каменьняў.**
**Апошнія гады Багдановіч унікся ўсёй душой**
**у дух старых народных беларускіх матываў...**
**нібы той вадалаз, даставаў з глыбі мора**
**роднай мінэралогіі пэрлы паэзіі.**
**На скрыжалях адраджэньня**
**роднага краю яго імя будзе зьзяць у небе**
**Беларусі сьветлай зоркай навекі!**

**Выбрана выцінаньнем з газеты**
**«Вольная Беларусь: за 28 мая 1917 году.**

Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы
у ціхую сінюю ноч
і сказаць:

«Бачыце гэтыя буйныя зоркі,
ясныя зоркі Гэркулеса?
Да іх ляціць наша сонца,
ды імчыцца за сонцам зямля...
Хто мы такія?
Толькі падарожныя,
—папутнікі сярод нябёс.

Нашто ж на зямлі
сваркі і звадкі, боль і гора,
калі ўсе мы разам ляцім
да зор?»

Так сказаў бы я,
і тонкае джала жальбы
укалола б душу мне.
Суцішай гэты боль, мая мілая думка,
што нам з Вамі адна дарога,
ня толькі дарога Дваранскай і Стралецкай,
але й да тых да ясных зор.

1914 ці 1915

## КНІГА

Псалтыр, пакрытую няжорсткай, бурай кожай,
Я ўзяў і срэбныя засьцёжкі адамкнуў,
Перачытаў радкі кірыліцы прыгожай
І воску з ладанам прыемны пах пачуў

Вось псальма сьлічная: «Як той алень шукае
Крыніцы чыстай, так шукаю Бога я.»

Як вее сьвежасьцю яе краса жывая!

Як радасна далей сьпяшыць душа мая!

І бачу я ў канцы няхітрую прыпіску,
Што кнігу гэтую раб божы дзяк Гапон
Дзеля душы пісаў у месьце Воўкавыску
У рок сем тысяч сто васьмы з пачатку дзён. »

1911

## АДМЕТНАСЬЦЬ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

*Нацыянальны характар Багдановічавай паэзіі ня быў вузкім і абмежаваным да беларускае нацыянальнае й адным толькі беларусам блізкае й зразумелае спэцыфікі, але цесна злучайся з элементамі агульналюдзкімі. Багдановіч, глыбока абзнаёмлены з заходняэўрапейскай культурай і паэзіяй ды знаходзячыся ўвесь час пад ейным магутным уплывам, быў сам у культурным сэнсе наскрозь эўрапэйцам і патрапіў сваім творам, асноўным на беларускім матэрыяле, надаць агульналюдзкі характар. Гэтую важную й ад іншых нашаніўцаў адменную рысу Багдановічавае творчасьці першым выразна адзначыў Антон Навіна (Антон Луцкевіч) у сваіх нарысах «Нашы песьняры»: «Гэта нічога, што паэта зь любасьці выбірае матывы родныя — беларускія, у іх ён заўсёды ўмеў знайсьці асноўны агульна-людзкі мамэнт. Яго верш гэтак сама гаворыць беларусу, як і чужынцу, падобна як музыка вялікага маскоўскага кампазытара Чайкоўскага, што карыстаўся матывамі свайго народу, роўна прамаўляе да душы кожнага чалавека незалежна ад яго нацыянальнасьці. Бо М. Багдановіч не фатаграфуе жыцьця, а нанава ператварае ў сваёй чуткай, далікатнай і асабліва інтэлігентнай душы».*

*... Багдановіч паказаў два способы выкарыстоўваньня народнае творчасьці: прымітыўнае ўплятаньне ў мастацкія творы народных песьняў ці іх частак і стварэньне поўнасьцю арыгінальных твораў, пісаных «беларускім складам», г. зн. народным стылем, або выдзержаных у «народным духу».*

*Багдановіч быў адным зь першых, які старасьвеччыне роднага краю прысьвяціў рад лепшых сваіх вершаў і, такім чынам, і ў гэтай галіне аставайся ў поўнай згодзе з галоўнымі тэндэнцыямі сваёй эпохі. На гэтую тэму ён пакінуў нам некалькі вершаў з цыклу «Старая Беларусь» у зборніку «Вянок», апавяданьне «Аб іконьніку і Залатару», у якім даў вельмі ўдалы й высока мастацкі ўзор старой архаічнай мовы, верш «Пагоня» й рад іншых вершаванняў і празаічных твораў.*

*У разуменьні й паэтычнай практыцы Багдановіча літаратурны твор павінен быць перш за ўсё мастацкім творам і строга адказваць усім чыста вымаганьням літаратурнага мастацтва. Цьвёрда трымаючыся такога погляду, Багдановіч, аднак, не адкідаў грамадзкіх або нацыянальных праблемаў у літаратурным творы, адно толькі разглядаў іх у іхняй чыста мастацкай функцыі. Ён таксама не [illegible] прызнаваў вялікае ідэйнае узьдзейваньне літаратурнага твору на чытача, але толькі ў тым выпадку, калі гэтае ўзьдзейваньне ўспрымаецца чытачом, як эстэтычнае перажываньне. «Няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсьць той спажытак дзеля душы»,— выкладае Багдановіч сваё паэтычнае крэда ў вапавяданьні «Апокрыф»...*

*Адам Бабарэка ў артыкуле «Максім Багдановіч у літаратурных ацэнках»... вызначыў тры наступныя галоўныя мамэнты, якія за гэны час выявіла беларуская літаратурная крытыка:*

*«Першы мамэнт — гэта вызнаньне М. Багдановіча за песьняра своеасаблівага-індывідуальнага яшчэ пры жыцьці паэта, другі — вызнаньне яго за нацыянальнага паэту-клясыка, якое адбылося ў жалобнае пяцёхгодзьдзе, і трэці — вызнаньне М. Багдановіча за мастакасынтэтыка, якое прыпадае на час рэгістрацыйнага зьбіраньня спадчыны паэты ў другое пяцёхгодзьдзе пасьля яго сьмерці. Адначасова ж усе гэтыя мамэнты суправаджаюцца легэндаю аб М. Багдановічу, як паэты «мастацтва для мастацтва», якая ўтварылася з патрэбы ў свой час адрозыненьня М. Багдановіча ад іншых паэтаў адраджэньня».*

**Ст. СТАНКЕВІЧ.**

М. БАГДАНОВІЧ

## ПАГОНЯ

Толькі ў сэрдцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,—
Ўспомню Вострую Браму сьвятую
І ваякаў на грозных канях.

Ў белай пене праносяцца коні,—
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, ня спыніць, ня стрымаць.

У бязьмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.
Вы за кім у пагоню сьпяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо яны, Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі ўздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?

Бійце ў сэрдцы іх, бійце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрдца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці-Краіна!
Ня усьцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За цябе яму ўмерці дазволь!..

Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, ня спыніць, ня стрымаць.

1916

## ПЕСЬНЯ ПРА КНЯЗЯ ІЗЯСЛАВА ПОЛАЦКАГА

Ізяслаў, сын Васількоў,
Даўнымі часамі
Аб літоўскія шаломы
Пазваніў мячамі;
Адняў славу у сваго
Дзеда, у Ўсяслава,
І улёгся нярухома
На траве крывавай
Пад чырвонымі сваімі
Роднымі шчытамі,
Ўвесь ісьсечаны, ізьбіты
Ворагаў мячамі.
Усхапіў ён тую славу
І прад сьмерцю кажа
«Скрыдля птах тваю дружыну
Прыадзелі, княжа,
І зьвяры кроў палізалі... »
У баі крывавым
Ня было ні Ўсевалода,
Ані Брачыслава.
Ураніў самотна зь цела
Ён душу ўдалую
Цераз пацерку на шыі,
Цераз залатую.
Засмуцілася вясёласьць,
Песьні замаўкаюць,
І жалобна, сумна трубы
У Гародні граюць.

1911



Зоська Верас

## З маіх успамінаў

Хутка беглі дні за днямі... У «Беларускай хатцы» як заўседы вечарамі людна, і тым больш прыемна, што вось ужо другі тыдзень з намі Максім Багдановіч. Вядзем бясконцыя гутаркі, чытаем супольна лісты, якіх я шмат атрымліваю ад пецербурскіх студэнтаў, былых сяброў Гародзенскага гуртка беларускае моладзі. Прыходзяць таксама лісты ад сяброўкі гэтага гуртка Марысі Бобрык, якая скончыўшы школу мэдсёстраў працуе цяпер на фронце. У апошнім лісьце прыемная вестка: прыедзе на адзін дзень адведаць мяне!

Хутка надышоў гэты дзень... Як радасна сустрэцца пасьля трох гадоў! Дзень спатканьня мінуў хутка... Увечары я праводзіла Марысю на цягнік... Ужо мы абедзьве былі адзеўшыся, як падышоў да нас Максім і пытаецца: «Можна мне з вамі?» Я ўсьцешылася...«Зразумела, калі ласка!»

Быў ужо позны вечар, вуліцы па-ваеннаму цёмныя, пустыя...

Ня ведаю, чаму мы ня ішлі па ходніку, а пасярод вуліцы.

Мы з Марысяй успаміналі Гародню, нашы спэктаклі ў горадзе і на вёсцы, спацыры над Нёманам... Максім слухаў зь цікавасьцю і з сумам зазначыў, што ён з Гародні памятае адно — сьмерць сваёй маці. ..

Варочаліcь мы з Максімам не сьпяшаючы, таксама сярэдзінаю вуліцы. Ён са мною дзяліўся сваімі думкамі... «Я,— кажа,— пагадзіўся з тым, што жыць засталося мала, але вельмі цяжка на душы, што не магу мець сям 'і, дзяцей... Я так іх люблю! Ведаеце, калі я пачаў пісаць вершы, напісаў калыханку і даў у друк, падпісаўшы псэўдонімам. Усе, хто яе чытаў, былі ўпэўненыя, што калыханку напісала жанчына, і то жанчына-маці... Я ў гэты верш уклаў усю сілу свайго пачуцьця..!»

* * *

Сягоньня я пачуў словы
«Мая нешчаслівая дзевачка» —
і думаю ўвесь вечар аб гэтым, але
жывем мы, як чужыя людзі,— і
ні да чога дадумацца няможна...

Максім

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

· 9 9 9

*Ізноў пабачыў я сялібы,*
*Дзе леты першыя прайшлі:*
*Там сьцены мохам парасьлі,*
*Вясёлкай адлівалі шыбы.*
*Усё ў пылу. І стала мне*
*Так сумна, сумна ў цішыне.*
*Я ў сад пайшоў. Усё глуха,*
*дзіка,*
*Усё травою зарасло.*
*Няма таго, што раньш было,*
*І толькі надпіс «Вэроніка»,*
*На ліпе ўрэзаны ў кары*
*Казаў вачам аб тэй пары.*
*Расьці, узмацовывайся,*
*дрэва,*
*Як монумэнт жывы, ўставай*
*І к небу надпіс падымай.*
*Хай нярухомы словы сьпева:*
*чым болі сходзіць дзён,*
*начэй,*
*Тым імя мілае вышэй.*
*1913*

### НАД НЁМАНАМ

*Заціхае і грукат і гоман.*
*Месяц выплыў у неба і*
*сьвеціць.*
*Як шырока ён кінуў на Нёман*
*Залацістыя яркія сеці.*

*У іх русалак заблыталі*
*косы,—*
*Рвуць бліскучыя, яркія ніці:*
*Ноч плыве над зямлёй, сее*
*росы,*
*Ноч шапоча русалкам:*
*«Засьніце».*
*1916—1917 г. г.*
*Да новае рэдакцыі «Вянка»*

## НЕКАЛЬКІ ПАДАНЬНЯЎ ПРЫМХАЎ І ДРОБНЫХ ЗАБАБОНАЎ З ЭТНАГРАФІЧНАГА НАРЫСУ АДАМА БАГДАНОВІЧА «ПЕРАЖЫТКІ СТАРАЖЫТНАГА СЬВЕТАПОГЛЯДУ Ў БЕЛАРУСАЎ»

Выд. Гародня, 1895г.

### ПАПАРАЦЬ-КВЕТКА

Папараць-кветка і як сьцьвярджае паданьне і цьвіце толькі на Купальле — 23 чэрвеня, цьвіце толькі адно імгненьне, кветкі гараць, як іскры. Сарваць іх вельмі цяжка, нячыстая сіла ставіць розныя перашкоды: адводзіць вочы, палохае. За гэтую справу трэба брацца ўмеючы, ня кожнаму чараўніку яна пад сілу. Найчасьцей тыя, хто пайшоў у лес па папараць-кветку, паміраюць са страху.

Бесперашкодна зьбірае папараць-кветкі толькі Купальскі дзядок; ходзіць ён з вялізным лазовым кошыкам і зьбірае ў кошык кветкі, дно кошыка гарыць, як жар. Купальскі дзядок добры. Калі зь ім спаткаешся і расьсьцелеш белы настольнік, дзядок кіне туды адну кветачку. Хапай не хутка, разрэж далонь правай рукі, пакладзі кветку пад скуру, адтуль нячысьцік не дастане. Шчасьлівы — хто валодае цудоўнай кветкай папаратніку,— ён валодае дарам правідцы, ведае, дзе знаходзяцца скарбы, як да іх дабрацца, ведае заклінаньні і як адчараваць іх. Зразумела, што нячысьцік, які вартуе скарб, стараецца не дапусціць нікога да папараць-кветкі.

### ЛЮБІЗЬНІК

Ёсць некалькі прываротных сродкаў ці любізьнікаў. Самым памоцным лічацца дзьве костачкі кажана — вілачкі ды кручок. Здабываюць іх так: трэба пасадзіць кажана ў новы гаршчок, завязаць куском новага палатна і закапаць у мурашнік ноччу. Вяртацца дадому трэба не азіраючыся, заткнуўшы вушы, каб не пачуць, як пішчыць кажан. Праз тры тыдні трэба выцягнуць з мурашніку гаршчок. Мурашкі зьядуць кажана, пакінуць толькі дзьве костачкі — кручок і вілачкі. Яны чарадзейныя. Каб прываражыць, каго трэба,— варта яго пацягнуць кручком да сябе. Будзе так ліпнуць, што не адчэпіцца без дапамогі вілачак. Калі надакучыў той, каго кручком прываражыла, трэба адштурхнуць яго вілачкамі, увесь мілосны шал зьнімаецца.

... Калі хто жадае разбурыць шчасьце маладой пары, то разьбівае гаршчок, як маладыя вяртаюццма ад шлюбу.

### КУРЫЦА СЬПЯВАЕ ПЕЎНЕМ

Пачуўшы, калі курыца сьпявае пеўнем, у вёсцы кажуць: «На сваю галаву»,— і тут жа одсякаюць дурной сьпявачцы галаву на парозе хаты. Гэта засьцерагае ад няшчасьця. Часамі робяць іначай. Злавіўшы курыцу, якая сьпявала, мераюць ёю, як аршынам, ад пачэснага кутка да парогу, паварочваючы курыцу паперамення то галавою, то хвастом,— і калі на парог ляжа хвост, адсякаюць хвост і спальваюць, а курыцу пускаюць на волю. Калі яна засьпявае зноў, то ўжо тады адсякаюць галаву...

### РОЗНЫЯ ДРОБНЫЯ ЗАБАБОНЫ

Калі ідзеш ці едзеш па справе ды спаткаеш некага з поўнымі вёдрамі, то пашанцуе, а як з пустымі—не чакай посьпеху.

Калі воўк перабяжыць дарогу, таксама пашанцуе, адсюль прыслоўе «яму воўк дарогу перабег», калі некаму шчасьціць. Калі заяц перабяжыць дарогу, лепей вярнуцца дадому.

Калі прадаеш каня ці карову ды жадаеш, каб яны ў новага гаспадара павяліся, то нельга перадаваць іх «голымі» рукамі. У такіх выпадках »б 'юць па руках» і перадаюць купленае «касматай» рукой, закруціўшы руку ў падол адзеньня.

Калі прадаеш парася, курыцу ці ягня на расплод і калі пасадзіш жывёлу ў мяшок уперад галавою, трымаючы за заднія ногі, то ў прадаўца гэтая жывёла зьвядзецца, а ў пакупніка будзе добра пладзіцца; калі ж пасадзіш жывёлу ў мех заднімі нагамі, то ў пакупніка ня будзе



прыплоду, а прадаўцу будзе шэнціць. Каб ня было крыўды нікому, трэба жывёлу пасадзіць у мех сьпіною, трымаючы за ногі.

Есьць людзі зь «легкай рукой» — ад такіх што ні купіш, усё будзе «ручыць»...

Калі выюць сабакі,— на бяду. Трэба нешта з посуду перавярнуць уверх дном. Калі ў хаце завяліся мышы, яны некага з хаты выжываюць.

Ня трэба нічога пазычаць цяжарнай, мышы будуць есьці адзеньне і хлеб. Каб такое ня здарылася нават калі нічога ёй не пазычыш, трэба ўсьлед за ёю кінуць вуглі або кускі гліны. Толькі яе дзіця будзе есьці вуглі і гліну.

Нельга выкідаць, куды папала, стоптаныя лапці. Нельга размаўляць праз парог ці праз вакно — пасварыцеся. Нельга спаць перад заходам сонца. Ня трэба класьці нож вастрыём уверх. Не наступай на перакрыжаваныя саломінкі — будуць балець ногі.



МАРЫЯ БАГДАНОВІЧ

## ПЕРАД КАЛЯДАМІ

(сьвяточны аповяд, выцінак)

Цёмна на надворку, дзе-нідзе заблішчаць зоркі і сьвятло запалена ў вокнах. У пакоі цішыня, чуваць толькі дыханьне хворай ды заскрыпіць сьнег на вуліцы пад нагамі рэдкага прахожага.

— А што, мама, калі раптам і Хрыстос забудзе зайсьці да нас сёньня? — у цішыні чуваць галасок старэйшага хлопчыка.— Вось жа Іваніха забылася!

— Не, дзіцятка, Хрыстос не забудзецца.

Як успомнілі Іваніху, меншаму Колю яшчэ болей захацелася есьці, заныў, як бы засьпяваў: «Е-сь-ці ха-чу!»

У адказ маці толькі застагнала.

— Мама,— цягне размову Міша,— Чаго я трывожуся? А калі Хрыстос не пасьпее да ўсіх зайсьці? А магчыма, забудзецца, што каму падараваць? Мне так хочацца коніка. А раптам ён аддасьць майго коніка некаму іншаму! Такое можа здарыцца, мама?

— Не хвалюйся, Мішанька, Хрыстос не забудзе нікога,кожны атрымае, што яму трэба...

— Матулька, галубка, апавядай, як усё гэта будзе: як гэта Ён увойдзе, паставіць каля мяне коніка, якой масьці, якую гуньку ты пашыеш...

— Добра, дзіцятка, слухай! Шмат гадоў таму назад сышоў на зямлю Хрыстос маленькім дзіцяткам. Ноччу гэта было. Усе жывыя ведалі, што ён павінен зьявіцца,— і людзі, і жывёлы, і дрэвы,— ды невядома было ўсім, а калі менавіта... Прыйшла ноч, людзі, стомленныя сваімі клопатамі і бедамі, заснулі і не спаткалі, як належыць, нябеснага Госьця.

Дрэвы паздымалі на ноч сваё зялёнае адзеньне і засталіся — голенікімі, нават зорачкі не зьзялі, а спрасонку мігцелі ў начным небе. Толькі тры чалавекі ня спалі, ішлі да Яго з далёкай дарогі. Але добра ня ведалі, куды ісьці, згадзілася іх весьці адна зорачка, якая таксама ня спала... Калі дайшлі да таго месца, дзе ляжаў маленькі Хрыстос, зорачка спынілася, зазьзяла весела ўсімі праменьчыкамі як бы вітаючы Яго. А людзі пакланіліся яму і паклалі да ног падарункі. Ля ўваходу стаяла елачка, яна адна з усіх дрэваў не заснула ў гэту ноч, прыбраная ў прыгожую зяленую сукенку, ціха заківала галоўкай і прывітала Яго. Маленькі Хрыстос засьмяяўся ў адказ і падаў ім свае рукі. І тады сказаў Бог так: «Няхай усе дрэвы будуць голымі ў гэтую пару году, а зелянее адна елачка, няхай яе прыбіраюць у гэтую ноч, каб дзіцячыя вочы цешыліся. Няхай паслушныя дзеці атрымліваюць падарункі ў гэту ноч... »Вось таму так і адбываецца: людзі ўпрыгожваюць ялінку, вешаюць на яе галінкі бліскучыя цацкі, ходзяць з зоркай і сьпяваюць пахвальныя песьні Хрысту, а каля ложкаў дзяцей зьяўляюцца падарункі, іх уначы прыносіць Хрыстос. І сёньня ты з братам засьнеш, на падворку будзе зусім цёмна — прыдзе Хрыстос, абыйдзе з гораду ў горад, не мінуўшы ні беднай хаціны, ні багатага дому, усюды пабудзе, дзе ёсьць дзеці, і кожны зь іх прачнуўшыся ранкам знойдзе тое, аб чым марыў. Як дойдзе чарга да нас — ціха адчыняцца дзьверы, увойдзе Хрыстос, схіліцца каля пасьцелькі і пачуе, аб чым моліцці вашае сэрцайка, якое ў ім наймацнейшае жаданьне; благаславіць вас і пойдзе далей, пакінуўшы па сабе шчасьце і пацеху. Заўтра як прачнешся — знойдзеш коніка, а Коля музыку.

— Я музыкі не хачу, хачу булачку вя-лі-ку-ю!..— заплакаў Коля, які прыціх на момант, калі слухаў апавяданьне.

— Ну, перастань ты нарэшце! Заўсёды так — расплачашся і перашкодзіш апавядаць. А я вось думаю, ці можна будзе езьдзіць на тым коніку... І як яго назваць... Калі назваць яго Прыгажуном, добра гэта ці не?

— Вось што, Мішанька,— стомленым слабым голасам перабіла яго маці,— схадзі ты да Іваніхі і калі яна дома, спытай: ці прадала яна мой вянчальны пярсьцёнак і ці купіла тое, што мама прасіла... Спытай гэтак і болей нічога. І вяртайся.

Міша марудна падняўся і няўцямна гледзячы перад сабою, як чалавек, які заняты сваімі думкамі і ніяк ня можа ад іх вызваліцца, паціху пацягнуўся да дзьвярэй. Прайшоў праз кухню гаспадароў і апынуўся перад пакоем Іваніхі, пастукаў, але дзьверы былі зачынены, і не атрымаўшы адказу, хацеў вяртацца, ды перадумаў і асьцярожна выбраўся на двор...

Спачатку пайшоў да весьнічак, але ўспомніўшы пра нешта, вярнуўся ў пакой...

— Коля, ты ня сьпіш? — паклікаў брата.— Уставай, пойдзем і пастаім каля весьнічак.

— Холадна, не хачу! — пярэчыць Коля, падымаецца з пасьцелі, дзе каля матчаных ног ляжаў.

— І тут холадна,— прадаўжае намаўляць Міша,— а на двары затое сьветла. І як будзе ісьці Хрыстос, мы яму пакажам, дзе жывем, ато Ён абміне наш пакойчык. Толькі што мама адна застанецца, ды мы ж вернемся хутка...

З гэтымі словамі ён узяў брата за руку і яны пайшлі да дзьвярэй. Але як толькі зьявіліся на панадворку, як наляціці на іх са сьвістам і шыпеньнем вецер, як бы рады, што ёсьць на кім паказаць сваю сілу, як засыпле ім вочы сьнегам, зашкуматае адзеньне і, забегшы наперад, перагародзіць ім дарогу.

— Ой, холадна, хачу ў пакой,— заплакаў Коля.

— Гэта толькі спчатку холадна, пасьля стане цёпла, вось убачыш,— пераконвае Міша, цягнучы брата на вуліцу.— Бачыш той дом, што на рагу? Там сьветла. Напэўна туды ўжо елачку прынёс Хрыстос. Пайшлі, пачакаем, як Ён выйдзе, і павядзем яго да нас...

Сьнілася Мішу елка прыгожая, дзеці, якія вакол яе скачуць, анёлак над ёю. Вось ён узмахнуў крылцамі, і ўзьняўшыся высока над зямлёю, ціха засьпяваў. На зямлі пасьвятлела. І ў пакойчыку стала сьветла і цёпла. Адчыніліся дзьверы, зайшоў Хрыстос, падышоў да Мішы, нахіліўся: «Не сумуй, бедны хлопчык, вось твой конік» — кажа.

Міша прачнуўся. Пры сьвятле ранку вочы яго выдзелілі абрысы коніка, які стаіць каля яго... У печы патрэскваюць дровы.

23 сьнежня 1893 г. Гародня

### *УПАЛІ З ГРУДЗЕЙ ПАНА БОГА...*

**Упалі з грудзей пана Бога,**
**Парваўшыся пацеркі зор.**
**Яны раскаціліся ў небе**
**Усыпалі сіні прастор**

**І гэтак маркотна і пільна**
**На край наш нядольны**
**глядзяць...**
**Што ж чуюць яны там, што**
**бачаць?**
**Чаго ўсе дрыжаць і**
**дрыжаць?..**

**1910**

### *ПЕРАД ПАВОДКАЙ*

*Праясьняецца пагода,*
*Бо вярнулася вясна.*
*Усё чакаеш, што прырода*
*Ўстрапянецца ада сна.*

*І пад птушы крык і гоман,*
*Дайшы хвалям вольны ход,*
*Прыпадыме бацька Нёман*
*На хрыбце магутным лёд.*

*Зазвіняць жалобна крыгі,*
*І бурлівая вада*
*Сьнег, размоклы ў час адлігі,*
*Змые з луга без сьляда.*

*Дык разьлійся жа раздольна*
*Ў чыстым полі і гаю*
*І красой паводкі вольнай*
*Душу выпрастай маю!*

*1910*

# ПЯСЬНЯР ЧЫСТАЕ КРАСЫ

М. Багдановіч — сьвядомы паэта: ён ня толькі пачувае красу,— ён яе разумее. І каб пераказаць нам яе — падбірае такія словы, што папраўдзе выклікаюць у нашай душы шчыры водклік. Усё ў яго выходзіць у такіх мяккіх тонах, быццам на старых тканінах габэленах; усё сагрэта шчырым пачуцьцём, ды ўсё гэта жыве, выдаецца рэальным.

М. Багдановіч умее ўсё ажывіць, ператварыўшы пасвойму. І лёгка льюцца яго вершы кунштоўнай філіграннай работы, а кожны формаю падыходзіць да думкі. Думак тых — багата, і вось бачым у «Вянку» вершы такой формы, такой будовы,— часта вельмі рэдкай,— якой могуць пахваліцца толькі найбольш культурныя народы з найвышэй разьвітай літаратурнай мовай... «Вянок» — гэта праўдзівая пэрла ў беларускай паэзіі.

* * *

Хараство паэзіі Багдановіча ня ў сіле, ня ў тым магутным творчым размаху, які выяўляецца, напрыкдад, у Купалы, ня ў красачнасьці, сакавітасьці абразоў прыроды, чым так чаруе нас Колас. Багдановіч — поэт паўтонаў. Свае фарбы ён бярэ з паблеклых старадаўніх тканін, з малюнкаў сьвятых кніг, пісаных многа сот лет таму назад на пэргамэнце, з засохшых красак родных палёў. Яго грудзі ўдыхаюць «воску з ладанам прыемны пах», якім пранікнуты страніцы збутвелых ад часу фоліянтаў. Прад Яго вачыма праносяцца празрыстыя, як косы месяца, разьвеўныя і маўклівыя русалкі, Яму грае ў бары лясун,— і вадзянік, пакрыты адвечным ілам, вядзе зь ім разгавор. Уваскрасаюць «слуцкія ткачыхі» і, захопленныя хараством прыроды, у пэрсыдзкія ўзоры паясоў нясьведама ўплятаюць «цвяток радзімы васілька». А ў бруднай упэцканай васьмігадовай дзяўчынцыняньцы. Ён выкрывае цудоўны бліск пачуцця мацярынства — той самы бліск, каторы Рафаэль вялікі стараўся адмаляваць на ліках сваіх Мадоннаў. Паўтоны ў фарбах, у гуках, у перажываньнях — вось асноўная рыса творчасьці Максіма Багдановіча.

У гэтым Ён ня мае падобных сябе. Ён стаіць здалёк ад усіх другіх нашых песьняроў. Ён наскрозь індывідуальны, новы, беспадобны. Яго ролю ў беларускай паэзіі можна прыраўнаваць да ролі таго, хто ўвёў у музыку паўтоны, хто на іх збудаваў новую гармонію.

У аснову свае гармоніі Багдановіч паклаў лад мінорны: Ён іграе на бэмолях. І гэта зусім зразумела: гэта выплывае зь Яго індывідуальносьці. Ад маладых гадоў хворы на сухоты, ведаючы, што сьмерць безупынна стаіць у Яго за плячыма, Багдановіч ня шукае ў жыцьці сьвету, ні радасьці, ні асабістага шчасьця, а, наадварот, як быццам зачыняецца ў самым сабе, услухваецца ў музыку свае нязвычайна інтэлігэнтнае, багатае, чуткае душы і пераліваe гэту музыку ў абразы й словы. Згэтуль выплывае й агульны тон паэзіі Багдановіча, які мамэнтамі напамінае сум і тугу бясьсьмертных твораў Шопэна.

* * *

Мала можна знайсьці ў нашай літаратуры прыкладаў такой поўнай, як у Багдановіча, гармоніі паміж думкай ці пачуцьцём, выяўленым у вершы, і формай яго — будовай і падборам гукаў. Сустракаем гэткую гармонію толькі ў найвялікшых нашых песьняроў дый то не заўсёды. У Багдановіча — гэта агульнае правіла. Узгадаваны на найлепшых узорах сусьвітнае літэратуры, захоплены нязвычайнай музыкальнасьцю вершаў Вэрлена, творы якога з піэтызмам перакладаў на беларускую мову, Багдановіч датуль працаваў над кожным сваім вершам, датуль шліфаваў яго, пакуль не дахадзіў да таго, чаго жадаў. А гэты крытык, срогі для другіх, быў асабліва срогім судзьдзёй для сябе самога і вымагаў ад сябе вельмі многа! І затым та вершы Багдановіча — гэта ідэальныя ўзоры для маладых беларускіх паэтаў. Багдановіч — вялікі вучыцель: Ен паказаў, як, маючы ў душы іскру Божую, можна выказаць роднай мовай усё, што перажывае, што адчувае ня толькі народ просты, але і інтэлігэнт эўрапейскага тыпу. Багдановіч прысвоіў сабе ўсе формы вершаў, вядомыя ў літаратуры найбольш культурных народаў, даказаўшы гэтым гібкасьць і багацьце беларускае мовы. Бачым у Яго клясычныя пэнтамэтры, зграбныя трыялеты, рондо, паважную октаву,— а Яго сонэты з боку тэхнікі вышэй усялякай крытыкі. Ён — мастак формы: Ён зусім апанаваў тэхніку вершаў, падчыніў сабе матар ́ял і карыстаўся гэтым зусім сьвядома.

* * *

Праўдзівая краса прамаўляе ад таго, які народ творыць яе. Нацыянальнае стаецца агульналюдзкім праз укрытую ў ім чыстую красу. Вось чаму творы Багдановіча, хоця і збудаваныя з нацыянальна-беларускіх элемэнтаў, маюць агульналюдзкую цану: як пясьняр чыстае красы Багдановіч выбірае для свае творчасьці беларускія элемэнты не затым, што яны — родныя Яму, а затым, што ў іх ёсьць сапраўднае хараство. І ў гэтым вялікая заслуга Яго: бо такім чынам найлепшыя творы беларускай нацыянальнай душы ўзьнімаюцца на тую ступень, на якой стаяць такія ж творы іншых народаў, што здабылі ўжо даўно сусьветнае прызнаньне. Выкрываючы вечную, няўміручую красу ў нашым родным, беларускім, Багдановіч уводзіць нас у сям ́ю культурных народаў з большай пэўнасьцю, чымся тыя, хто піша вялікія трактаты аб нашым праве на гэта.

... Уся творчасьць Багдановіча не затраціць свае цаны ніколі, бо краса ніколі не ўмірае, бо Пясьняр Чыстае Красы ніколі няможа быць забыты і будзе таксама прамаўляць да душы і сэрца нашых унукаў, як прамаўляе цяпер да нас.

*Май 1927*

*Антон НАВІНА (А. Луцкевіч)*

*З рэцэнзіі на першае выданьне «Вянка» і ўступнага слова да другога выданьня.*



**Васіль БЫКАЎ**

## Наш беларускі апостал

Кожны горад мае сваю гісторыю, і чым гэта гісторыя багацейшая, тым большы гонар гарадскіх насельнікаў.

Багацьце гісторыі, як ведама, складаюць справы людзей. Добрыя справы. Добрыя справы робяць добрыя людзі. Іхнімі рукамі пабудавана ўсё: дамы, вуліцы, цэрквы, замкі. Але славу гораду, як і зямлі, робяць славутыя людзі. У гэтым сэнсе Гародні пашэнціла — у ёй жыло нямала выдатных, славутых людзей, і сярод іх — наш першы інтэлігэнт у літаратуры, тонкі і трагічны Максім Багдановіч.

Пасьля вайны, як я прыехаў у Гародню, яшчэ ня было вядома, дзе жыў малы паэта. Пасьля літаратуразнаўцы знайшлі ягоны дом. Памятаю, неяк я ўсё хадзіў па той ціхай зялёнай вулачцы за паркам — прыглядаўся, уяўляў, думаў. У ладным, спраўным дамку жылі нейкія людзі, і я думаў, ці ведаюць яны, хто тут жыў да іх! Ці разумеюць!

Пасьля прайшло шмат год, перш чым у Гародні была ўшанавана памяць нашага класіка. Гэта — як заўседы. Мы, беларусы, якраз тая нацыя, якая ня надта шануе сябе і сваё. Болей чужое. А пасьля яшчэ скардзімся, што тыя, чужыя, не шануюць нас. Але хто не шануе сябе і свайго, таго не шануюць іншыя. Гэта ўжо вядома.

Усё ж памяць аб слаўных і слынных ня толькі суцешвае, але і абавязвае. Абавязвае да лепшага. Ці хоць бы да добрага. Некалі да таго абавязваў гонар роду, славутыя продкі. У нас якія ж продкі... Хоць бы нямногія апосталы дабрыні. Адзінкі зь мільёнаў.

Максім Багдановіч — апостал. І ён назаўжды. Але — пакуль будзе існаваць нацыя. Калі ж зьнікне нацыя, зьнікне і Багдановіч. Чужым нацыям ён не патрэбны. Чалавецтву ен патрэбны датуль, пакуль у ім ёсьць мейсца нам, беларусам. Але не абы якёім беларусам — цывілізаваным. Бо ён наш апостал, які зьвязвае нас зь мінулым і пракладвае шлях у будучыню.

Там ён даражэйшы для нас.

### ЯНКА БРЫЛЬ

У гісторыі беларускай літаратуры
імя Максіма Багдановіча — адно
з найпрыгажэйшых, і разам з тым,
з найбольш трагічных.

Ён быў разьлічаны на вялікае.
Усё, што зроблена ім, дае падставу
меркаваць, прадбачыць, быць
упэўненым, як многа мог бы ён
зрабіць, каб пажыў — проста
кажучы — трохі больш...
Ён з намі — вечна і звонка,
сонечна родны.
Хай жа сьвеціцца яго імя!

*З аўтографа, які экспануецца ў музеі.*

*АЛЯКСЕЙ КОРШАК*

### *МАКСІМ БАГДАНОВІЧ*

*Б ́ецца мора аб бераг дзікае,*
*пер ́е пены губляе скрозь.*
*Зноў з тугою, як сьвет, вялікаю*
*ён прыйшоў сюды з краю кроз.*

*Па сьлядах жа Страціма-лебедзя*
*расставаньне з жыцьцём прыйшло...*
*Патанула ў сухотах зьедзена*
*маладосьці яго крыло.*

*Ды адчуўшы душой узрушанай*
*мора сіняга грозны гнеў,*
*ён прыбег у пакой прыглушаны,*
*ён за столік з паперай сеў.*

*І калі ён, ад кашлю стомлены,*
*адышоў ад гарачых слоў,*
*на паперы гарэлі полымем*
*палкі верш і жывая кроў.*

*А. ПЯТКЕВІЧ№-*

### *АД МАКСІМА КНІЖНІКА ПАЧАТАК...*

*Восеньню 1896 года Максім Багдановіч назаўсёды пакінуў горад свайго маленства, горад, дзе засталася яго маці. Напэўна, гродзенскія ўражаньні, хоць і дзіцячыя, адкладаліся глыбокім сьледам у яго душы. Жывучы пазьней у Расіі, у вялікай і тлумнай сям ́і бацькі, ён заставаўся адзінокім. Вобразы холаду, цемені, імжы, што добра перадавалі драматызм яго сьветаадчуваньня, падказваліся і асабістым лёсам. Вобразы сьвятла, таксама характэрныя для яго лірыкі, жывіліся нашаніўскаю Вільняю, па вясковаму паэтычнаю Ракуцеўшчынай, і вядома ж, горадам той даўняе яго пары, мясьцінамі з-над Нёмана, дзе пракладваліся з маці першыя жыцьцёвыя сьцяжыны.*

*Магчыма, згадка, уяўленьне пра іх і нарадзілі элегічныя і ўрачыстыя, прасьветленыя радкі ў адным зь ягоных гістарычных вершаў: і жалобна, сумна трубы у Гародні граюць.*

*Аляксей ПЯТКЕВІЧ*

*СЯРГЕЙ КАВАЛЁЎ*

### *ТРЫЯЛЕТ*

*Ен марыў жыць сярод бяроз.*
*А над магілкай — кіпарысы.*
*У сьмерці — крымскія абрысы.*
*Ен марыў жыць сярод бяроз.*

*Застылі ў смутку твару рысы.*
*Як жорстка насьмяяўся лёс.*
*Ен марыў жыць сярод бяроз.*
*А над магілкай — капірасы.*

*АНОТОЛЬ ІВЕРС*

### *МАКСІМ БАГДАНОВІЧ*

*Мора шэрай парусіны—*
*жыта хвалямі ўзьнялося.*
*З таго поля пару сініх*
*васількоў прынёс з калосьсем.*

*Стала ўтульна ў нашай хаце.*
*На стале «Вянок» паэта—*
*вось і ўсё маё багацьце,*
*наш куточак ім сагрэты.*

*Са сьцяны заўсёды юны*
*пазірае Багдановіч.*
*Закранае ў сэрдцы струны,*
*такі ласкавы і новы.*

*І загадкавы, як зорка,*
*што гарыць над родным краем.*
*І на бой зь нядоляй горкай*
*кліча. Праўдай дакарае.*

*1937*

### *АПАНАС ЦЫХУН*

* * *

*Дзе кіпарыс гайдае выш*
*пад вечны гул прыбою,—*
*пад яснай зоркай што ты сьніш*
*зь «Вянком» над галавою?*

*Ды з крыльля белага вянок*
*табе сплятаюць гусі,*
*калі вяртаюцца здалек*
*да роднай Беларусі...*

### *МІХАЛ АДАМІН*

* * *

*Прарочая зорка з грудзей Пана Бога*
*твой шлях асьвяціла, наш слаўны*
*Максім,—*
*і памяць збудзіла сьвятая трывога*
*за край наш нядольны: што станецца зь*
*ім?*

*З табою вяртаецца Зорка Вэнэра*
*і тупат Пагоні праз вечныя сны,*
*і кнігі Скарыны, і прадзедаў вера,*
*і памяць бацькоў, і надзеі сыны,*
*што пойдуць у шаблі з навалай*
*варожай*
*і больш не дадуць чужакам у палон*
*ні мілага краю, ні песьні прыгожай,—*
*за гэта прымі ад нашчадкаў паклон!*

*З кніга водгукаў Дома-Музэя М. Багдановіча ў Гародні за 2.08. 90г.*